IDW

#25 • CVR A

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES

EASTMAN
WALTZ
SANTOLOUCO
PATTISON

BY COMICS

ПАДЛЕТКІ МУТАНТЫ
ЧАРАПАШКІ НІНЗЯ #25
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY

CITY



FALL

SANTOLOUCO
2013

IDW

TEENAGE MUTANT NINJA

TURTLES

#25 • CVR B

EASTMAN
WALTZ
SANTOLOUCO
PATTISON













FWIP
FWIP

SHNK
ГЛК!

TUEZ LE... ГНФ!
FWAK

ФУТ, ТРЫМАЦЬ АБАРОНУ!
ІХ ЗАНАДТА ШМАТ!

МЫ ГЭТА ВЫПРАВІМ!
SCHLIP

ГУЧНЫЯ АБЯЦАННІ!
WHOP
УФФ!

ПРЫСЛУХАЙСЯ ДА СВАЙГО САЛДАТА. ПЕРАВАГА Ў КОЛЬКАСЦІ – ГАРАНТ НАШАЙ ПЕРАМОГІ, ДЗЯЎЧЫНКА.
«ДЗЯЎЧЫНКА»? ТЫ ПАШКАДУЕШ, ШТО ГЭТЫЯ СЛОВЫ САРВАЛІСЯ З ТВАЙГО ЯЗЫКА.

ДЫ НУ?
ТАК...

...ЯНА ПРАВА.
ОЎ?

ЗНІШЧЫЦЕ ІХ УСІХ.



ШТО, УВЕСЬ ГОНАР РАЗГУБІЎ, А, ФРАНЦУЗІК?
KLANG
ЭРФ!


«ДЗЯЎЧЫНКА» ВЫКРАЛА ТВАЮ ШАНОЎНУЮ ПЕРАМОГУ?
СТОП!


АЛЕ...
НЕ, КАРА! – ЁН ПАТРЭБНЫ ЖЫВЫМ, КАБ ПЕРАДАЦЬ ПАВЕДАМЛЕННЕ МАЙСТРА.


А ЦЯПЕР УВАЖЛІВА ПАСЛУХАЙ.
ФУТ БОЛЬШ НЕ БУДУЦЬ ТРЫВАЦЬ НЕПАДПАРАДКАВАННЕ – НІ ВАША, НІ ЧЫЁ-НЕБУДЗЬ ЯШЧЭ Ў ГЭТЫМ ГОРАДЗЕ. СЁННЯ – ТОЛЬКІ МАЛЕНЬКІ ПРЫКЛАД ТАГО, ШТО АДБУДЗЕЦЦА, КАЛІ ВЫ НЕ ПРЫСЛУХАЕЦЕСЯ ДА МАІХ СЛОЎ.
БЯЖЫ І СКАЖЫ СВАІМ ГАЛОЎНЫМ, ШТО ГЭТА БЫЛО АПОШНЯЕ ПАПЯРАДЖЭННЕ. ІНАЧАЙ ПРЫСЯГНІЦЕСЯ ШРЭДАРУ...
...ІНАЧАЙ ПАЧНЕМ РЭАЛЬНУЮ ВАЙНУ.


«ЗНАЧЫЦЬ, ЛЕО САПРАЎДЫ СЛУЖЫЦЬ ФУТ?»


ЛЯКАРНЯ
«НУ Й НУ... У ТАКОЕ... ЦЯЖКА ПАВЕРЫЦЬ, ДОНІ».


УЖО АМАЛЬ ДВА ТЫДНЯ ПРАЙШЛО З ТОЙ АПОШНЯЙ СУСТРЭЧЫ. У НАС ТУТ СПРАВЫ НЕ ВЕЛЬМІ ВЫДАТНЫЯ.
АГА, МНЕ ЭЙПРЫЛ СКАЗАЛА, ШТО РАФ ПРЫНЯЎ УСЁ БАЛЮЧА.


ЯК І **МЫ ЎСЕ**. АЛЕ ТЫ Ж ВЕДАЕШ РАФА – ЁН ЗАЎСЁДЫ ЗЛАДЖВАЕ СА СТРЭСАМ... **КАНСТРУКТЫЎНА**. ПРАМА ЗАРАЗ ЁН ДЗЕСЬЦІ БЛУКАЕ І РОБІЦЬ БОГ ВЕДАЕ ШТО.
І НЕ ТОЛЬКІ ЁН – СПЛІНТЭР ТАКСАМА АДСУТНІЧАЕ. ЗАНЯЎСЯ НЕЙКАЙ ТАМ «НЕАДКЛАДНАЙ СПРАВАЙ» СА СТАРЫМ НЯЧЫСЦІКАМ І СЛЭШАМ.


СЛЭШ? ГЭТА ТОЙ МОНСТАР, ШТО РАЗНЁС НАШ ДОМ?
НІХТО ІНШЫ, ЯК ЁН. ЯК БЫ ДЗІКАВАТА ГЭТА НІ ГУЧАЛА. БЫЦЦАМ ВОРАГІ І СЯБРЫ ПАМЯНЯЛІСЯ МЕСЦАМІ. ДЫ МАЙК СА СЛЭШАМ УЖО АМАЛЬ НЕ РАЗЛІ ВАДА, БЛІН.
ХЭЛОЎ, РАБЯТЫ.
ДЫК ВОСЬ, МЫ З ІМ ЗБІРАЕМСЯ ТРОХІ ПАШУКАЦЬ РАФА.


ЛЕПШ РАБІЦЬ ХОЦЬ ШТО-НЕБУДЗЬ, АБЫ ДАРЭМНА ТУТ НЕ СЯДЗЕЦЬ, РАЗУМЕЕШ?
ЯШЧЭ ЯК. Я ХУТКА ЗВАР'ЯЦЕЮ, КАЛІ ПРАЛЯЖУ НА ГРОБАНАЙ КОЙЦЫ ТРОХІ БОЛЕЙ.


УСЁ, МЫ ПАЙШЛІ. ВЕЛЬМІ РАДЫ БЫЎ ПАГУТАРЫЦЬ, КЕЙСІ. СПАДЗЯЮСЯ, У ІНШЫ РАЗ РАСКАЖАМ ШТОСЬЦІ ЛЕПШАЕ.
АГА... ТРЫМАЙЦЕСЯ, РАБЯТЫ.
ПАКУЛЬ.


ЭЙПРЫЛ, МЯНЕ ГЭТА АЖНО РАЗ'ЮШВАЕ. БО Я ПАВІНЕН ДАПАМАГАЦЬ ІМ ШУКАЦЬ РАФА.
НЕ, ТЫ ПАВІНЕН БЫЦЬ **ТУТ**, КЕЙСІ.
У ТАКІМ СТАНЕ ТЫ ПАПАКУТУЕШ ЯШЧЭ БОЛЬШ І ТАДЫ ЎЖО ДАКЛАДНА НІКОМУ НЕ ДАПАМОЖАШ.


ВЕДАЮ. АЛЕ ТАК ПРЫКРА ЗАСТАВАЦЦА ТУТ, ПАКУЛЬ ЯНЫ ТАМ ПЕРАЖЫВАЮЦЬ, ШТО ЛЕА ЗЫШОЎ НАЗАЎЖДЫ.
ВЕДАЮ – Я ХАЧУ ВЯРНУЦЬ ЛЕА НЕ МЕНШ, ЧЫМ УСЕ. І РАЗУМЕЮ ТОЙ ЖУДАСНЫ БОЛЬ, ЯКІ ЗАРАЗ АДЧУВАЮЦЬ РАБЯТЫ...


...БО ПРАЙШЛА ПРАЗ **ТАКІ Ж** БОЛЬ З-ЗА ЦЯБЕ.
МЯНЕ?
ТАК. КАЛІ ШРЭДАР ЦЯБЕ ЗАКАЛОЎ, ТАДЫ Я ПАДУМАЛА...
...ПАДУМАЛА, ШТО **СТРАЦІЛА** ЦЯБЕ НАЗАЎЖДЫ.


НУ НЕ... НІКУДЫ Я НЕ ЗНІКНУ, ЭЙПРЫЛ.
НЯХАЙ ТАК І БУДЗЕ, КЕЙСІ ДЖОНС.




SMACK
ГЭТА БЫЛІ ЯШЧЭ КВЕТАЧКІ, КАЗЁЛ...
...У НАСТУПНЫ РАЗ Я НЕ БУДУ ТАКІМ ДОБРЫМ, КАЛІ НЕ ПАЧНЕШ АДКАЗВАЦЬ.
**АДКАЗВАЦЬ?!** ДЫ ПРА ШТО ТЫ НАОГУЛ, НАХРАН?
АЎЧ... ЗДАЕЦЦА, ТЫ ВЫБІЎ МНЕ ЗУБ.


Я КАЖУ ПРА ФУТ!
ФУТ? Я НІЧОГА НЕ ВЕДАЮ ПРА ГЭТЫХ ПСІХАЎ!
ДОСЫЦЬ ТУТ ДУРНЯ ВАЛЯЦЬ. Я ВЕ...


ГРРРАА!


WHUMP
ТВАЮ МАЦІ!
УФФФ!




МНЕ ЗАРАЗ НЕ ДА ГЭТАГА ЛАЙНА!


МЯРЗОТНЫ МУТАНТ!
FWAK


НЯЎЖО Я НЕ ПАПЯРЭДЖВАЎ НЕ ВАЛЯЦЬ ДУРНЯ?
Я... ГРК... ДАКЛАДНА... ХРМ... ТЫ, ТЫПА... ПРАБАЧ...
ПРЫБЕРАЖЫ ПРАБАЧЭННІ І СЛУХАЙ СЮДЫ.


Я ПАМЯТАЮ ЦЯБЕ, І ТОГА ДЭБІЛА ЗЗАДУ, ПА ТОЙ ВАЛТУЗНЕ З ЧАМАДАНЧЫКАМ, ФУТАМІ І САВАТ.
ТАДЫ ТЫ ДА ПЯТАЎ УВЯЗ У ТОЙ ГІСТОРЫІ І ШТОСЬЦІ МНЕ ПАДКАЗВАЕ, ШТО І Ў ГЭТЫМ ЛАЙНЕ, ШТО ЗАРАЗ У ГОРАДЗЕ АДБЫВАЕЦЦА, ТАКСАМА ЗАМЕШАНЫ.
Н-НЕ... УРФ... ЧУВАК, ТЫ НЕ ПРАВЫ... ХЭК... МЫ НЕ...


ХАРЭ МЯМЛІЦЬ, Я КАЖУ.
ФУТ ЛЕДЗЬ НЕ ЗАБІЛІ МАЙГО ЛЕПШАГА СЯБРА І ВЫКРАЛІ БРАТА. Я ЗБІРАЮСЯ ВЯРНУЦЬ ЯГО, АЛЕ СПАЧАТКУ ПАВІНЕН ЗНАЙСЦІ, ДЗЕ ГЭТЫЯ ЗЛОДЗЕІ ЯГО ТРЫМАЮЦЬ. І ПАЎТАРУ: ТАБЕ ЧАС ВЫКЛАДВАЦЬ ІНФУ, ІНАЧАЙ ТЫ Ў МЯНЕ МАЛОЙ КРЫВЁЙ НЕ АДЧЭПІШСЯ.
ПАНЯЎ?
ММ...ХМ.


ПАСЛУХАЙ... КХА... МЫ З КЭНАДАЙ УСЯГО ТА ДРОБНАЯ РЫБЁШКА – ГЭТА ТАБЕ КОЖНЫ СКАЖА. МЫ НЕ ВЕДАЕМ ГЭТЫХ ШЫЗАНУТЫХ. ГЭТЫЯ НІНЗЯ, ЯНЫ ЯК ЗДАНІ... УВЕСЬ ЧАС КРАДУЦЦА І ЎТОЙВАЮЦЦА.
АЛЕ ЁСЦЬ ПАРА ХЛОПЦАЎ, ЯКІЯ МОГУЦЬ БЫЦЬ ДАСВЕДЧАНЫЯ. ГЭТА ГУЛЬЦЫ ВЫШЭЙШАЙ ЛІГІ, БУЙНАЯ РЫБА; ЯНЫ ЗАЎСЁДЫ ДРОБЯЦЬ ЦЯСНЯЦЬ. І МАБЫЦЬ РАСКАЖУЦЬ ТАБЕ БОЛЬШ, БО ХРЭНЬ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА Ў ГОРАДЗЕ, СУР'ЁЗНАЯ...


«...УСЁ ВЯДЗЕ ДА САМЫХ ВЯРХОЎ».
KRAK
РРААА!


ГЭТА АПОШНІ, БОС. МЫ ПЕРАМАГЛІ.
НУ КАНЕШНЕ.
ВІКТАР!


МАРЧЭЛА? ШТО ПРЫВЯЛО ЦЯБЕ НА ПОЛЕ БОЮ, MON AMI?
ГЭТА НЕ СВЕЦКІ ВІЗІТ, ВОСЬ УЖ САПРАЎДЫ.
СЕМ'І ПАЧЫНАЮЦЬ ЗЛЁГКУ АБУРАЦЦА. ЯНЫ СКЛІКАЛІ ЗБОР, І МЯНЕ ДАСЛАЛІ ЗА ТАБОЙ.


ПРАМА ЗАРАЗ? Я ЗАНЯТЫ, ЯК БАЧЫШ.
І ГЭТА ТЫ ЗАВЕШ ЗАНЯТАСЦЮ? А ВЫГЛЯДАЕ НІБЫТА ВАРУШЭННЕ ВУЛЛЯ БЕЗ ПРЫЧЫНЫ.
НУ ЖА, ЕДЗЕМ.


«ДЗЯКУЙ, ШТО ПРЫЕХАЎ ПА ПЕРШАМУ КЛІЧУ, ВІКТАР...»


...МЫ Б НЕ ВЫКЛІКАЛІ ЦЯБЕ Ў ТАКОЙ НАХАБНАЙ МАНЕРЫ, КАЛІ Б НЕ БЫЛО ВЕЛЬМІ **ВАЖКАЙ** НАГОДЫ.
ВАЖКАЙ НАГОДЫ, АНТОНІО?


ТАК. КАЛІ ТЫ ЎЗЯЎ НА СЯБЕ КІРАВАННЕ САВАТ, ТАДЫ ПРАІНФАРМІРАВАЎ НАС, ШТО ПАДВЕРГНЕШ АРГАНІЗАЦЫЮ ЗНАЧНЫМ ЗМЕНАМ. АЛЕ НАМ ТАДЫ І Ў ГАЛАВУ НЕ ПРЫЙШЛО, ШТО ЯНЫ БУДУЦЬ ТОЛЬКІ ДА ГОРШАГА.
ПАЛІЦЫЯ НАС НЕ ТУРБУЕ – МЫ ПАСПЯХОВА ЗЛАДЖВАЕМ З ЁЮ ЎСЕ ПЫТАННІ З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК СЕМ'І КАНТРАЛЮЮЦЬ ГОРАД.
КАЛІ ВЫ ЗАКЛАПОЧАНЫ КОПАМІ, АНТОНІО, ТАДЫ СУПАКОЙЦЕСЯ. ЯНЫ ВЕДАЮЦЬ, ШТО ТРЭБА ТРЫМАЦЦА ПАДАЛЕЙ.


АЛЕ НАС ХВАЛЮЕ ТВАЯ НАДЗВЫЧАЙ АГРЭСІЎНАЯ ПАЛІТЫКА, АСАБЛІВА, КАЛІ СПРАВА ТЫЧЫЦЦА ФУТ.
ШЧЫРА КАЖУЧЫ, МЫ НІЯК НЕ ЧАКАЛІ, ШТО ТЫ ПЯРОЙДЗЕШ УСЕ ДАЗВОЛЕНЫЯ МЕЖЫ, ПАЧАЎШЫ ВАЙНУ, БЕЗ ЯКОЙ МОЖНА АБЫСЦІСЯ.
ТАК, ТАК. ТВОЙ БЫЛЫ БОС, ФАБРЫС, ЗМОГ БЫ ЗНАЙСЦІ СПОСАБ ДАМОВІЦЦА СА ШРЭДАРАМ ЯК БІЗНЕСМЭН, А НЕ ЯК ГОПНІК, ЯКІ ВАЛОДАЕ КУНГ-ФУ.


ГЭТА ТАК, АЛЕ...


ГРК!
SHK


...Я НЕ ФАБРЫС. І МІНУЛЫХ ЧАСОЎ БОЛЬШ НЕ БУДЗЕ.
ПРЫЙШОЎ ЧАС ВЫЗНАЧЫЦЦА, СЯБРЫ МАЕ, ЦІ ДРАПЕЖНІКІ МЫ...


«...ЦІ АХВЯРЫ?»


SCREEEE


ВЫДАТНА, КОЙЯ!
ДА МЯНЕ!


Я ГАТОВЫ ВЫСЛУХАЦЬ ТВАЮ СПРАВАЗДАЧУ, ЧУНІН.
ТАК, МАЙСТАР ШРЭДАР.


МЫ ПАСПЯХОВА ДАЛІ АДПОР САВАТ, НАНЕСЛІ РАПТОЎНУЮ КОНТР-АТАКУ, ЯК І ПЛАНАВАЛІ...
...ТАКСАМА Я АДПРАВІЎ ІМ ВАШ УЛЬТЫМАТУМ, МАЙСТАР.
ДАРЭЧЫ...


...ХАЧУ ВЫКАЗАЦЬ СВАЁ АБУРЭННЕ НАКОНТ ГЭТАЙ МІСІІ.
Я ЎПЭЎНЕНА, ШТО ГРАЮ БОЛЬШ ЗНАЧНУЮ РОЛЮ ДЛЯ КЛАНА І ЯГО МЭТАЎ, ЧЫМ РОЛЮ ПРЫНАДЫ, ДЗЕД.


НАВОШТА ТЫ КАЖАШ ГЭТА **МНЕ**, КАРАІ? МОЙ ЧУНІН ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ ЦЯБЕ ТАКІМ ЧЫНАМ.


ТЫ?!
ТАК. ТАКТЫЧНА БЫЎ СЭНС ВЫМАНІЦЬ САВАТ МЕНАВІТА ПРАЗ ЦЯБЕ.
Я ВЕДАЎ, ШТО ПАБАЧЫЎШЫ ДЗЯЎЧЫНУ, ШТО АДКАЗНАЯ ЗА ГРУЗ, ЯНЫ ПАВЯДУЦЬ СЯБЕ ДЗЁРЗКА І ПА-ДУРНОМУ. І АКАЗАЎСЯ ПРАВЫ.
НЕ... ТЫ **НЕ** ПРАВЫ.


Я НЕ ДАЗВОЛЮ ЗВЯРТАЦЦА СА МНОЙ, ЯК З РАДАВЫМ ФУТ, МАЙСТАР!
ТЫ БУДЗЕШ КІМ-ЗАЎГОДНА, КАЛІ Я ВЫРАШУ ГЭТА ПРАВІЛЬНЫМ ДЛЯ КЛАНА.
А ШТО Ж НАКОНТ АБРАНАГА ТАБОЙ НАМЕСНІКА, МАЙСТАР? ЁН ТАКСАМА - КАРЫСЦЬ ДЛЯ ФУТ?


ТОЙ, ХТО НЕ ХОЧА ЦІ НЕ ЗДОЛЬНЫ АКРЫВІЦЬ КЛІНКІ ВОРАГАМІ? НЯЎЖО ЁН...
МАЎЧАЦЬ!


ЯК ПАЖАДАЕШ... ДЗЕД.


МНЕ ТРЭБА ТРЭНІРАВАЦЦА, МАЙСТАР. ЦІ МАГУ Я ТАК САМА...


...ІСЦІ?


ТАК, ТЫ ВОЛЬНЫ, ЧУНІН.


Я... ЭЭ...




Я Ж ДАЗВОЛІЎ, ЛЕАНАРДА.
Т-ТАК... МАЙСТАР. ДЗЯКУЮ.


НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА СВАЮ ДЗЁРЗКАСЦЬ, КАРАІ БЫЛА ПРАВА НАКОНТ ЛЕАНАРДА, КІЦУНЭ.
ЯК ТЫ РАІЛА, Я ЗАБАРАНІЎ ЯМУ ЗАБІВАЦЬ ХОЦЬ КАГО Ў БАІ. АДНАК НА КОЛЬКІ ДОЎГА Я ПАВІНЕН СТРЫМЛІВАЦЬ ЯГО МЕЧ У НОЖНАХ? ГЭТА СЛАБАСЦЬ ПАДРЫВАЕ МАЮ СТРАТЭГІЮ І БАЯВЫ НАСТРОЙ МАІХ ВОІНАЎ.


САПРАЎДНЫ ЧУНІН АБАВЯЗАНЫ БЫЦЬ ЗДОЛЬНЫМ ЗАБІЦЬ, КАЛІ ХОЧА МЕЦЬ ПАВАГУ ПАДНАЧА-ЛЕНЫХ.
РАЗУМЕЮ, САКІ, АЛЕ ТАБЕ ЎСЁ ЯШЧЭ ТРЭБА ЗАХОЎВАЦЬ ЦЯРПЕННЕ Ў ГЭТЫМ ПЫТАННІ.
ХОЦЬ ЛЕАНАРДА І ПАД МАІМ КАНТРОЛЕМ, АЛЕ ЯГО СУВЯЗЬ З МІНУЛЫМ ЗАСТАЕЦЦА МОЦНАЙ.


ПАКУЛЬ ЯГО СЯМ'Я ЖЫВА, ЯНА ПРАДСТАЎЛЯЕ ПАГРОЗУ НАШАЙ АРГАНІЗАЦЫІ.
ТАК... ПРЫКРАЯ ПРАБЛЕМА, ЯКАЯ БУДЗЕ ВЫРАШАНА З ЦЯГАМ ЧАСУ, Я ЎПЭЎНЕНЫ.
ЧАС – ТОЕ, ШТО МНЕ ПАТРЭБНА, ВАЛАДАР. БОЛЬШ ЧАСУ, КАБ КАНЧАТКОВА СХІЛІЦЬ УПЛЫЎ ХАМАТА ЁШЫ І ПЕРАЎТВАРЫЦЬ ЛЕАНАРДА Ў ГРОЗНАГА ЧУНІНА, ПРА ЯКОГА ТЫ МАРЫШ.
ПРАБАЧЦЕ, ШТО ПЕРАРЫВАЮ, МАЙСТАР ШРЭДАР...
...АЛЕ ДЛЯ ВАС ПРЫНЕСЛІ ТЭРМІНОВУЮ ПАСЫЛКУ АД ВІКТАРА З САВАТ.


ТЫ ЎЖО ДАСЛЕДВАЎ ЯЕ ЗМЕСТ, ЦІ НЕ ПРАЎДА?
ТАК, МАЙСТАР. ЯНА... БЯСПЕЧНА, АЛЕ...
ПАКІНЬ НАС.
ЁСЦЬ МАЙСТАР.


ТАКІМ ЧЫНАМ... ВОРАГ ЗРАБІЎ ВЫБАР. І ВІДАЦЬ, КІЦУНЭ, ШТО...


...ЧАСУ Ў ЦЯБЕ ЗУСІМ НЕ ЗАСТАЛОСЯ.
ВАЙНА


«ВЕДАЕШ, ГЭТА НЕСУМЛЕННА, ЭЙПРЫЛ...»


...ТАКІ ГОДНЫ ХЛАПЧУК, ЯК КЕЙСІ, НЕ ЗАСЛУЖЫЎ ТАКІХ ПАКУТАЎ, У АДРОЗНЕННІ АД СВАЙГО НІКЧЭМНАГА БАЦЬКІ.


ХОПІЦЬ.


З МЯНЕ ХОПІЦЬ!




З МЯНЕ ХОПІЦЬ.


«ТЫ НАРЭШЦЕ ПЕРАДУМАЎ...»


...І ЧАМУ Я НЕ ЗДЗІЎЛЕНЫ?


ТАК... ЧЫМ ЖА Я МАГУ ДАПАМАГЧЫ?


НЯЧЫСЦІК, МОЙ СЫН, ЛЕАНАРДА, СЛУЖЫЦЬ ФУТ НАСУПЕРАК МАЁЙ ВОЛІ. Я НЕ ДАЗВОЛЮ ГЭТАМУ ПРАЦЯГНУЦЦА.
АДНАК, МАЁ СЯМЕЙСТВА НЕ ВАЛОДАЕ СРОДКАМІ, НЕАБХОДНЫМІ ДЛЯ СУПРАЦЬСТАЯННЯ ФУТ, НЕЗАЛЕЖНА АД ТАГО, ЦІ ЁСЦЬ ШАНС РАТАВАЦЬ ЛЕАНАРДА...


...СРОДКАМІ, ЯКІМІ ТЫ, МАГЧЫМА, НАС ЗАБЯСПЕЧЫШ.
ХЕХ. Я ВЕДАЎ, ШТО ТАБЕ ХОПІЦЬ МАЗГОЎ, КАБ СТАНОЎЧА АЦАНІЦЬ ІДЭЮ З АРМІЯЙ МУТАНТАЎ.


УСЁ Ж ТАКІ ПАВІНЕН СПЫТАЦЬ – З ЧАГО ТЫ ВЫРАШЫЎ, ШТО ТВАЁ ШЧАНЯ ПАТРАПІЎ ДА ВОРАГАЎ НЕНАЎМЫСНА? А РАПТАМ ЯМУ **ПАДАБАЕЦЦА** ПРАЦАВАЦЬ ДЗЕЛЯ ШРЭДАРА?


ТЫ **ПАМЫЛЯЕШСЯ!** ЁН – ДОБЛЕСНЫ ВОІН І НІКОЛІ Б НЕ ПАЎСТАЎ НА БОК СІЛ ЗЛА ПА СВАЙМУ ЖАДАННЮ!
НІКОЛІ!
ЗРАЗУМЕЛА, ЗРАЗУМЕЛА... ПРОСТА СПЫТАЎ. СЦІШЫСЯ.


ЗРАЗУМЕЙ, СТАРЫ НЯЧЫСЦІК: ДЛЯ МЯНЕ ПЕРШАПАЧАТКОВАЯ ЗАДАЧА – ПАЗБАВІЦЬ ЛЕАНАРДА АД НЕБЯСПЕКІ.
ДЗЕЛЯ ГЭТАГА Я ЗГАДЗІЎСЯ ПАСУР'ЁЗНАМУ ПАДЫСЦІ ДА ТВАЁЙ ПРАПАНОВЫ АБ'ЯДНАЦЦА. АЛЕ ТОЛЬКІ НА ЎМОВАХ, ШТО ТЫ ЗГОДНЫ ДАПАМАГЦІ МНЕ Ў ВЫРАТАВАЛЬНАЙ АПЕРАЦЫІ.


БЕЗ ЯГО ВЯРТАННЯ Ў ЦЭЛАСНАСЦІ ПРА ПАГАДНЕННЕ НЕ МОЖА БЫЦЬ І РАЗМОВЫ.
РАЗУМОВА... АЛЕ Я НЕ ПРЫХІЛЬНІК ПАЛЮБОЎНЫХ ЗГОД. ПАТРЭБНЫ ДОКАЗЫ ЦВЁРДАСЦІ ТВАІХ НАМЕРАЎ.


МНЕ ПАТРАБУЕЦЦА ПРАВЕРЫЦЬ ШТОСЬЦІ, ІДЭАЛЬНА ПАДОЙДЗЕ ТАБЕ. МЫ НАЗАВЕМ ГЭТА «ІСПЫТАМ НА ДАВЕР»...
...ЗРОБІШ – І МЫ ПАЧНЕМ ПРАДУМВАЦЬ, ЯК ВЯРНУЦЬ ТВАЙГО ПАДШЫВАНЦА.
Я СЛУХАЮ.
ТАК? ТАДЫ НАВАСТРЫ ВУШЫ...


...БО ЦЯПЕР ТЫ МАЕШ СПРАВУ З **ВЯЛІКІМІ ГАРМАТАМІ**.


МІЛЕР, МЫ АБОДВА ВЕДАЕМ, ШТО НІЧОГА ДОБРАГА АД ГУЛЬНІ З ГЭТЫМІ ТРАКЛЯТЫМІ НІНЗЯ НЕ БЫВАЕ – НЕ КАЖУ ЎЖО ПРА ГУЛЬНЮ НА ДВА БАКІ.
ГЭЙ, НЕ ПАДОБНА, ШТО МЫ АДЗІНЫЯ КОПЫ, ЯКІЯ МАЮЦЬ З ІМІ СПРАВЫ. КАЛІ І ФУТ, І САВАТ ХОЧУЦЬ АДКУПІЦЦА АД НАС, КАБ МЫ НЕ ЛЕЗЛІ Ў ІХ ВУЛІЧНЫЯ СПРЭЧКІ...
...ТАДЫ НЕ МНЕ АДГАВОРВАЦЬ ІХ ПАДЗЯЛЯЦЦА БАРЫШОМ.




НУ НЯ ВЕДАЮ. ГЭТЫЯ НІНЗЯ – ПОДЛЫЯ ЎБЛ... **ГРК!!!**
KRAK


ХТО..?! ТЫ ЗВАР'ЯЦЕЎ, МУЖЫК? МЫ – КОПЫ!
А МНЕ НАСПЯВАЛІ, ШТО ВЫ – ТЫЯ ЯШЧЭ ПРАЙДЗІСВЕТЫ. ВЕЛЬМІ БУЙНАЯ РЫБКА.
РЫБКА? ПРА ШТО...


ЗАПХНІСЯ. ЦІ СКАЖАШ МНЕ, ДЗЕ СХОВІШЧА ФУТ, ЦІ, У АДРОЗНЕННІ АД ТВАЙГО ПРЫЯЦЕЛЯ, ПАЗНАЁМІШСЯ З ІНШЫМ КАНЦОМ МАЙГО САЯ...
...ГЭТА ЗРАЗУМЕЛА?
ЧОРТ.


УФФ!
WHUMP


ВАМ БЫ ЛЕПШ ПРАВАЛЬВАЦЬ, ЧУВАКІ.
ХУТЧЭЙ, КОРБІН... РОБІМ НОГІ!
НЕНАВІДЖУ СМЯРДЗЮЧЫХ НІНЗЯ...


ДОНІ! ЯКОГА РАЖНА?!


Я ТОЛЬКІ СПРАБАВАЎ ДАВАДАЦЦА, ДЗЕ ЛЕА!
НЕ – ТЫ ЯК РАЗ СПРАБАВАЎ КОПУ ВЫКАЛАЦЬ ВОКА!
ТЫ ПРОСТА НЕКІРАВАНЫ!


Я ТАБЕ ЗАРАЗ ПАКАЖУ НЕКІРА...


**ДОСЫЦЬ УЖО, РАФ!**


МНЕ ТАК НАДАКУЧЫЛА, ШТО ВЫ ЗАЎСЁДЫ СПРАЧАЕЦЕСЯ! БЫЦЦАМ ПРОРВА МАЛЬЦОЎ-ПЕРАРОСТКАЎ. А ТЫ, РАФ, САМЫ ГУЧНЫ З ІХ!
МЫ З ДОНІ ЎВЕСЬ ДЗЕНЬ СТРАЦІЛІ, КАЛІ ЙШЛІ ПА КРОКАХ ТВАІХ ПАГРОМАЎ ПРАЗ УВЕСЬ ГОРАД. ТЫ НАМ СКАЗАЎ, ШТО ХОЧАШ ДАПАМАГЦІ ЛЕА, АЛЕ Я ЎБАЧЫЎ ТОЛЬКІ, ЯК ТЫ ЎСЁ РАЗБУРАЕШ І ПАГРАЖАЕШ ЛЮДЗЯМ... І ГЭТА НІКОМУ НЕ ДАПАМАГАЕ!
І ВОСЬ, ТЫ ГАТОВЫ НАКІНУЦЦА НА СВАІХ БРАТОЎ? Ё, ЧУВАК, ДЫ Ў ЧЫМ ТВАЯ ПРАБЛЕМА?


ДЫ ВЕДАЮ Я, ШТО ГЭТА ГЛУПСТВА. АЛЕ ПРОСТА... ГЭТА МАЯ ВІНА. КАЛІ Б НЕ ДАЗВОЛІЎ ФУТ ЗАБРАЦЬ КЕЙСІ, КАБ НЕ ЗЛЯЦЕЎ З РУЧНІКА, КАЛІ ШРЭДАР ПАРАНІЎ ЯГО... ЛЕА Б НІКУДЫ НЕ ТРАПІЎ.


Я БЕЗ РАЗУМЕННЯ, ШТО ПРЫМУШАЕ ЯГО ПАВОДЗІЦЬ СЯБЕ ЯК ПСІХ. АЛЕ РАЗУМЕЮ, ШТО САМ ВА ЎСІМ ВІНАВАТЫ, І ПАВІНЕН НЕЯК УСЁ ВЫПРАВІЦЬ.
МЫ ЎСЕ НЯДАЎНА ЎЗ'ЯДНАЛІСЯ, АЛЕ З-ЗА МАЙГО НЕТРЫВАЛАГА ТЭМПЕРАМЕНТУ ЗНОЎ РАСПАЛІСЯ.


Э, НУ... ТЫ ПАВІНЕН НЕШТА ВЕДАЦЬ, РАФ... НА ГЭТЫ РАЗ, ПАКУЛЬ ЦЯБЕ З НАМІ ЯШЧЭ НЕ БЫЛО, МЫ З МАЙКАМ БЫЛІ ГАТОВЫ ЗАБІЦЬ НА ЦЯБЕ, КАЛІ ЎСЁ ЗДАВАЛАСЯ ЗУСІМ БЕЗНАДЗЕЙНЫМ.
ТАК, АЛЕ ЛЕА НЕ ДАЎ НАМ ЗДАЦЦА, НІ РАЗУ. ЁН ХАЦЕЎ ЗНАЙСЦІ ЦЯБЕ, І НЕ ВАЖНА, КОЛЬКІ ЧАСУ ГЭТА Б ЗАНЯЛА.


ЁН ЗАЎСЁДЫ БЫЎ НАШЫМ ЛІДАРАМ, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ТОЕ, ЯК ЧАСТА Я СПРАЧАЎСЯ З ГЭТЫМ.
І ЛЕА Б ПЕРШЫМ СКАЗАЎ ТАБЕ ЗАРАЗ, ШТО ГЭТА НЕ ТВАЯ ВІНА, РАФ. ЧАСАМ ПАДЫХОДЗЯЦЬ ЧОРНЫЯ ДНІ – ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ.
І ТАБЕ НЕ ПА СІЛАХ ГЭТА ЗМЯНІЦЬ. ВОСЬ ТАМУ СПЫНІ КАТАВАННЕ СЯБЕ... А ТАК САМА І КОЖНАГА МЯСЦОВАГА ЛАТРУГУ ДЫ ПРАДАЖНАГА КОПА.


ЧАС СТАЦЬ КАМАНДАЙ, ЯКУЮ З НАС САБРАЎ ЛЕА.
ТОЛЬКІ ПРАЦУЮЧЫ РАЗАМ МЫ ПЕРАЖЫВЕМ УСЕ ВЫПРАБАВАННІ. ТОЛЬКІ ТАК МЫ ВЫРАТУЕМ БРАТА.
Я...
...ТАК, ТЫ ПРАВЫ, ДОН. ДЗЯКУЙ.


ФАЙНА! ТАК, З ЧАГО МЫ ПАЧНЕМ, КАМАНДА?
НУ, А ШТО Б ПРАПАНАВАЎ ЛЕА?
ХЕХ... ГЭТА ЭЛЕМЕНТАРНА. ЁН БЫ СКАЗАЎ...


«...НАМ ПРАТРЭБНЫ ПЛАН».
«Я І ЧУНІН УЗНАЧАЛІМ НАПАДЗЕННЕ НА ШТАБ-КВАТЭРУ САВАТ...»


...І ЎДАРЫМ У СЭРЦА ІХ КАМАНДНАГА ЦЭНТРА ПАД ПОКРЫВАМ ЦЕМРЫ, ЗНІШЧЫЎШЫ ВОРАГАЎ НА ІХ ЖА ТЭРЫТОРЫІ.
КАРАІ І АЛАПЕКС ПОЙДУЦЬ З ДРУГІМ АТРАДАМ САЛДАТАЎ І ДАБ'ЮЦЬ КОЖНУЮ ВАРОЖУЮ АДЗІНКУ, ЯКУЮ ПРАПУСЦІЦЬ НАШ АВАНГАРД.


ПОЙДЗЕМ, ЛЕАНАРДА.
УСЁ НЕЯК НЕ ТАК.
ШТО ДАКЛАДНА, АЛАПЕКС?


НЯЎЖО ЦЯБЕ НЕ КПІЦЬ БЫЦЬ НА ДРУГІХ РАЛЯХ, КАРАІ?
ПАСЛЯ ЎСЯГО, ШТО ТЫ ЗРАБІЛА ДЗЕЛЯ ФУТ, БЫЦЬ АДСУНУТАЙ НА ЗАДНІ ПЛАН... ГЭТАЙ РЭПТЫЛІЯЙ.
АЛАПЕКС, ПЕРААЦЭНЬВАЦЬ ЧЫЮ-НЕБУДЗЬ ВАЖНАСЦЬ – ГЛУПА. УСЕ МЫ СЛУЖЫМ ФУТ, НЕЗАЛЕЖНА АД РАНГА, І НІКОЛІ НЕ ПАВІННЫ ЛІЧЫЦЬ СЯБЕ НЕЗАМЕННЫМІ.


АДНАК, МУДРЫ ВОІН ЗАЎСЁДЫ МАЕ ПАД РУКОЙ ДРУГІ ПЛАН...


«...ПРА ЗАПАС».
РОК ЭН РОЛ!
ПРАЦЯГ БУДЗЕ!